

ISBN 985-6340-05-5



МАЛЕНЬКАЕ

# Я – ГЭТА Я

МИРА ЛОБЭ

Зузі Вайгель




# МАЛЕНЬКАЕ Я — ГЭТА Я

РАСКАЗАЛА МІРА ЛОБЭ

ПА-БЕЛАРУСКУ ПЕРАКАЗАЎ ЭДУАРД АКУЛІН

МАСТАЧКА ЗУЗІ ВАЙГЕЛЬ

*Гэтая кніга – падарунак дзецям ад чытачоў газеты "Salzburger Nachrichten" ("Зальцбургскія навіны")*

*Рэдактар Алесь Бяляцкі*

Пераклад з выданьня:
Lobe, Mira
Das kleine Ich bin ich /
erzählt von Mira Lobe.
Gemalt von Susi Weigel.
Wien; München:
Verlag Jungbrunnen, 1995

ISBN 985-6340-05-5



БКГ, г. Мінск
вул. Усходняя, 54-213 , Ліцэнзія ЛВ 642

ДП "Мінская друкарская фабрыка".
зак. №4249, наклад 14000





Па кіліме з гожых кветак
крочыць дзіва-зверанятка...
Тут пад сонцам дзьмухаўцовым
з-пад аблок балігалову,
дзе сьпявае хор птушыны,
дзе матыль прапах шыпшынай,—
ах, як добра зверанятку!
Толькі раптам...

Толькі потым...
Лупавокая жабоцька
запытала ў звераняткі:
— Ты чаму адзін тут ходзіш?
Прызнавайся хутка — хто ты?
Сум агораў зверанятку.
А жабоцька данімае...
— Хто я ёсць — я сам не знаю...
Жаба квакае-смяецца:
— Хто без імя застаецца,
забывае хто, адкуль ён,
той — ніхто, пустое месца.
Ці наогул — штось дурное...

На кіліме з гожых кветак
сумна-сумна зверанятку
і няма ў каго спытацца:
— Хто ён ёсць?
Чыё дзіцятка?..





— Добрай раніцы, цётка Кабыла!
Добрай раніцы, жарабятка!
Я нямала сцяжынак схадзіла,
каб дазнацца — чыё я дзіцятка.
Бо не ведаю — хто я і што я
і блукаю туды і сюды,
і няма, і няма мне спакою
ад такой вось раптоўнай бяды.

— Малеча,— кажа жарабятка,—
Ты маеш грыву, як і я.
Ды ногі — тоўстыя аладкі —
нас моцна розняць. Не мая
і даўжыня вушэй, занадта
яны вялікія ў цябе...
Таму канём ты быць не здатны.
Ты, мабыць, нейкі іншы звер!





Ды і цётка Кабыла яго
адштурхнула вільготнаю пысай:
— Не, з цябе выйдзе гэтакі ж конь,
як з мяне — у тэатры актрыса...
Ты — сабака, ці заяц, ці кот,
ці яшчэ нейкі звер невядомы...
Але пэўна адно, што не конь,
хоць аблічам сваім — так знаёмы...

І карова на ўсю абалонь,
і каза, і авечка таксама:
— Ты не конь, ты не конь, ты не конь!
І няведама — хто твая мама...

Па рацэ, што жалейкай пяе
І сваволіць вясёлаю хваляй,
зверанятка ў чоўне плыве,
а гісторыя цягнецца далей...



— Добрай раніцы, рыбы, з вады
вам напэўна відаць значна лепей...
Адкажыце хутчэй мне тады,
хто я ёсць і каму я патрэбен?
Я плыву і туды і сюды
і няма, і няма мне спакою
ад такой вось раптоўнай бяды,
мне самому няведама — хто я?

Усе рыбы сабраліся ўраз
і прыязна хвастамі шавеляць...
— Ты вачамі падобны на нас,
але ж плаваць, як мы, не ўмееш.
Нам так хочацца крыкнуць: — Гайда,
разам з намі гуляць і сваволіць!
Ды не рыба, ты, браце, шкада,
і не станеш ты ёй аніколі...



Па рацэ, што жалейкай пяе,
хуткі човен ляціць — не спыняецца,
Зверанятка ў чоўне плыве
і ўсім навакол захапляецца...
Вось знянацку з вады астравы
паказалі магутныя спіны.

А на іх — ні куста, ні травы,
толькі птушкі — тут чаек Краіна.
— Мабыць чайкі чакаюць мяне,
каб адкрыць найвялікшую тайну...
Але моцы даплыць не стае.
Зверанятка ізноў у адчаі.

Толькі раптам...



Толькі потым...
Велізарным бегемотам
востраў, што бліжэй усіх,
быў ад чоўна звераняткі
разам вынырнуў з вады



і спытаў: — Малеча, хто ты?





— Ах, у тым бяда мая.
Я не ведаю — хто я.
Хоць пра гэта ўсіх пытаю,
ды адказ пакуль не маю...

Моўчкі тоўсты бегемот
абыходзіць зверанятку
і сапе, і крывіць рот,—
хоча выведаць разгадку.
— Хто ты ёсць, — сказаць няпроста.
Але пэўна, што ў цябе
ногі — гэтакага ж росту
і аб'ёму, што й мае.
А ў астатнім, зверанятка,
бегемот з цябе — ніякі.
Грыўка-чуб і вушы ў складкі,
як у нейкага сабакі...



Што ж рабіці зверанятку?
Не шанцуе, хоць ты плач.
Бегемот услед: — Дзіцятка,
ты мяне ўсё ж прабач,
што ў бядзе тваёй нічым
я не змог дапамагчы...
Але што гэта, чакай,
Гэткі ж самы, як і твой,
з дрэва нечы хвост звісае.
Можа той, чый хвост у стане
адказаць на запытаньне?

— Дзякуй, мудры бегемот,
я гатовы цэлы год
за хвастом чужым ганяцца,
каб урэшце запытацца:
— Даражэнькі папугай,
хоць пакуль мы не радня,
ёсць агульная прыкмета —
хвост прыгожы. Хачу ведаць,
мы з табой — адна сям'я?



Ад здзіўлення папугай
заміргаў вачыма
і крычыць: — Ратуй, ай-яй —
гэта немагчыма!
Прычапі хоць два хвасты
спераду і ззаду,
ды павек не знойдзеш ты
з папугаем зладу...





А на небе вечаровым
зазіхцеў паўмесяц-рог...
Аблачынка — белай коўдрай
апусцілася да ног.
Запрашае зверанятку
У Краіну казак-сноў,
бо стамлёнае дзіцятка
пазяхае зноў і зноў.

— Спі, малеча, добрай ночы!
І сябе не дакарай...
Можа сон прысніш прарочы?
Змружвай вочкі: баю, бай.

У горадзе
на вуліцы,
дзе тлумна круглы год,
перад вітрынай Булачнай —
сабачы карагод...
Худыя і пузатыя,
вялікія й малыя,
аблезлыя, калматыя,
дабрачыя і злыя,
з прыгожымі прычоскамі,
на доўгіх павадках...
Усе такія розныя,
ну проста — справа жах!
— Добрай раніцы, шаноўныя сабакі!
Можа я таксама нехта з вас —
спаніэль, балонка або такса?
Дайце, калі ласка, мне адказ!





Ды сабакі малыя й нянадта
забрахалі: — Ну што ты нясеш?
Маеш вушы, але ты не такса,
маеш хвост, але не спаніэль...
Бо занадта кароткія ногі,
і згубіў недзе свой павадок...
І наогул, малеча, з дарогі
прэч хутчэй, бо ты проста — Ніхто!



Па горадзе, па вуліцы,
дзе гоман цэлы дзень,
малое шпацыруе ды
так думае сабе:
— Ці праўда, што наогул я
зусім-зусім Ніхто?
А можа быць увогуле
я — невядома што...
Ні птушка і ні рыба,
ні конь, ні бегемот,
ні такса, можа хіба
блыха? Не, я — Ніхто!
О-о-о-о-о-!
Яшчэ крыху й заплача
стракаты камячок.
— А можа быць — няйначай!
Малеча цішыць крок.
І раптам гучна, спеўна,
разважна, спакваля
сказала: — Без сумневу,
Я ёсць:

# “Я — ГЭТА Я!”



Праз парк у промнях сонечных
ляціць Я — ГЭТА Я
і цешыцца з прыгожага,
чым радуе зямля.
І раптам над газонамі
рой мыльных пузыроў
памкнуўся ўвысь, дзе кронаю
вітае клён вятроў...



Прыгожыя, пяшчотныя,
як выдзьмуты са шкла,
шары разнакалёрныя,
і ў іх: Я — ГЭТА Я.
Да самага вялікага
Малое падыйшло,
цікаўным носам тыцнула,
шара — як ні было.
— Нічога! — То адбітак быў,
і вось яго няма.
Я ж для сябе ізноў адкрыў —
Я ёсць: Я — ГЭТА Я!





Я зноў, дзе ў кветках луг расцвіў,
дзе сонца-дзьмухавец
святло ў кілішкі руж разліў...
Я зноў, дзе быў —
канец.







Канец гісторыі, але
цяпер шчаслівы я,
бо вам вядома, як і мне,
што Я ёсць — ГЭТА Я.



І цешацца наўкол звяры.
Ніхто не кажа: — Не.
Усе гавораць:
— ТЫ — ЁСЦЬ ТЫ!
І жаба ўсміхаецца
і кажа:
— Ты — ЁСЦЬ ТЫ!
А той, хто сумняваецца,
застанецца дурны!

ЯК РОБІЦЦА МАЛЕНЬКІ Я-ГЭТА-Я




ВАТА АЛЬБО ГУМА ДЛЯ ГАЛАВЫ






1.) 4 ВУХІ СКЛАСЦІ РАЗАМ, НАПОЎНІЦЬ ВАТАЙ

ВАТА ДЛЯ БРУШКА






5.) 4 ВУХІ СКЛАСЦІ РАЗАМ, НАПОЎНІЦЬ ВАТАЙ

1580Р




2.) КУТЫ 1, 2, 3, 4 СШЫЦЬ РАЗАМ



3.) ЗАШЧЫКНУЦЬ НОС

4.) ПЭНДЗЛІКІ ДЛЯ



ГРЫЎКІ



ХВАСТА




НАКЛЕІЦЬ ВОЧЫ



7.) ПРЫШЫЦЬ ГАЛАВУ, ВУШЫ, ГРЫЎКУ І ХВОСТ



6.) КОНЧЫКІ НОГ ПАДАГНУЦЬ, ЗАШЫЦЬ